# У нашых суседзяў

Ад Белавежскай пушчы аж за Уладаву, сутыкаючыся з Беластоцкім і Люблінскім ваяводствамі, прабягае заходняя граніца Брэсцкай вобласці.

Давайце адведаем нашых суседзяў, паглядзім, чым жывуць беларусы Брэстчыны.

Паглядзіце на карту Брэсцкай вобласці. Амаль уся яна пакрыта маленькімі рысачкамі. Гэта — балоты. Праўда, іх стала менш, чым было калісьці. За гады Савецкай улады тут асушаны і асвоены дзесяткі тысяч гектараў балот, пракладзены тысячы кіламетраў вадапрыёмнікаў, магістральных каналаў, дробнай меліярацыйнай сеткі. Але ў вобласці яшчэ ёсць больш чым мільён гектараў балот і забалочаных зямель. Хлебаробы Брэстчыны вырашылі за сямігоддзе ўласнымі сіламі і пры дапамозе дзяржавы асушыць і асвоіць значную частку гэтых зямель.

## ТАМ, ДЗЕ ГАСПАДАРЫЛІ ЗВЯРЫ

Картуз - Бяроза... Многа жахлівых расказаў аб мінулым гэтай мясцовасці можна пачуць ад старажылаў. Тут жа пры панскай Польшчы знаходзіўся вядомы канцэнтрацыйны лагер для палітычных зняволеных. А сёння Бяроза — цэнтр раёна, прыгожы горад. А год назад аб Бярозе разнеслася хвалюючая вестка — тут будзе пабудаван горад электрычнасці!

Яшчэ зусім нядаўна на гэтым месцы, што знаходзіцца за некалькі кіламетраў ад Бярозы, адзінымі гаспадарамі былі звяры. Але вось сюды прышоў чалавек, узброены магутнай тэхнікай. Пачалося будаўніцтва самай вялікай і магутнай у рэспубліцы электрастанцыі. А за два кіламетры ад вытворчых карпусоў ДРЭС, там, дзе цяпер размешчана невялікая вёсачка Ніўкі, вырасце сацыялістычны гарадок для абслугоўваючага персаналу станцыі. Пакуль што ён не мае назвы і няма яго на карце. Але ён існуе ў планах праекціроўшчыкаў. Кожны жыхар гарадка атрымае асобную, утульную кватэру з цэнтральным ацяпленнем, гарачай вадой, газам.

Бярозаўская ДРЭС дасць краіне ў год сотні мільёнаў кілават - гадзін электраэнергіі, магутны паток электрычнасці дазволіць электрыфікаваць сотні калгасаў і саўгасаў, поўнасцю забяспечыць прамысловасць не толькі Брэстчыны, але і многіх іншых гарадоў Беларусі. Ён прывядзе ў рух станкі заводаў і фабрык, якія будуць узведзены ў вобласці за сямігоддзе. А іх нямала.



Белая вежа — узведзена ў другой палавіне XII стагоддзя ў Камянцы



Хто з нас не чуў пра Брэст — горад, які стаіць на граніцы краіны Саветаў з народнай Польшчай і праз які праходзіць адна з галоўных чыгуначных магістраляў, што злучаюць Савецкі Саюз з Заходняй Еўропай! З гэтым горадам звязан бессмяротны подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці.

## МАЛАДОСЦЬ СТАРАЖЫТНАГА ГОРАДА

Брэст...

Амаль тысячу год стаіць ён над шырокім Бугам.

Калі вы прыедзеце ў Брэст у канцы красавіка альбо ў пачатку мая і пройдзеце па яго шырокіх асфальтавых вуліцах, то ў многіх месцах убачыце квітнеючыя каштаны і таполі. Многа тут усялякіх дрэў, і недарма Брэст лічыцца адным з самых зялёных гарадоў рэспублікі.

Тысячу год! Але старажытны горад маладзее з кожным годам. За пасляваенны час ён разросся, паявіліся новыя вуліцы, ансамблі жылых і культурна - бытавых будынкаў. Але брастаўчане не задавальняюцца дасягнутым. Яны хочуць бачыць свой пагранічны горад, які штогод прымае тысячы турыстаў, яшчэ больш прыгожым.

## БУДУЧЫЯ ЗАВОДЫ І ФАБРЫКІ

Баранавіцкі баваўняны камбінат. Ён будзе выпускаць штогод сто мільёнаў метраў тканіны. Пінскі завод штучнай скуры... Брэсцкі дывановы камбінат, разлічаны на выпуск аднаго мільёна ста [illegible] квадратных метраў дывановых вырабаў у год. У абласным цэнтры ўвойдуць таксама ў строй завод малагабарытнага электраабсталявання, ільнопрадзільная фабрыка, газанапаўняльная станцыя, значна расшырыцца механічны завод.

Вялікі размах набудзе будаўніцтва на Брэстчыне. З мэтай задавальнення патрэб будаўнікоў у вобласці неўзабаве будуць узведзены прадпрыемствы па вырабу будаўнічых матэрыялаў. Так, у Брэсце ўвойдзе ў строй завод жалезабетонных вырабаў, у Баранавічах — камбінат сілікатных вырабаў, Пінску — завод сілікатнай цэглы, у Жлобінскім, Камянецкім, Маларыцкім, Ляхавіцкім, Лагішынскім раёнах — цагельныя заводы.

## САЛА, МЯСА, ЦУКАР

Сельская гаспадарка вобласці ў новай сямігодцы будзе, як і раней, спецыялізавацца ў напрамку мяса - малочнай жывёлагадоўлі, мясной свінагадоўлі, развядзення вадаплаўнай птушкі, на вытворчасці бульбы, ільну, цукровых буракоў. За сямігоддзе ў калгасах і саўгасах вытворчасць збожжа павялічыцца амаль удвая, бульбы — у 2,5, цукровых буракоў — у 10, ільнавалакна — у 1,5, мяса — у 5, малака — больш чым у тры разы.

Шпаркае развіццё сельскай гаспадаркі патрабуе адкрыцця новых прадпрыемстваў па перапрацоўцы сыравіны. Сямігадовы план развіцця Брэстчыны прадугледжвае і гэта. Праз некаторы час дасць першую прадукцыю Жабінкаўскі цукровы завод. А яго ж магутнасць — больш чым 44 тысячы тон цукру ў год! У Брэсце, Баранавічах, Пінску вырастуць карпусы малочных заводаў, у Давыд - Гарадку, Лунінцы, Іванаве, Століне — малаказаводы, Кобрыне — малочна - кансервавы завод, Брэсце — мяскамбінат і піваварны завод, Іванаве — кансервавы.

Тэхнічна пераўзбройваецца рачны флот. Днепра-Бугскі канал стане важнай воднай артэрыяй. Тысячы пасажыраў на камфартабельных цеплаходах паедуць па канале, будуць любавацца цудоўнай прыродай Савецкага Палесся. Можа ў ліку іх будзеш і Ты, дарагі чытач...

**(Апрацавана паводле матэрыялаў «Звязды»).**



Новая набярэжная на рацэ Піне ў горадзе Пінску, Брэсцкай вобласці. Непадалёку адсюль пачынаецца Днепра-Бугскі канал, які злучае Прыпяць, Піну, Мухавец у суцэльную водную магістраль ад Дняпра да Заходняга Буга.

 




# ПАМІРАЮЧЫ ВОЛАТ

Пара нам пакончыць з гэтымі спрадвечнымі метадамі эксплуатацыі, — гаварылі кіраўнікі гарадоцкага ГС-а. Залежы торфу ў нас немалыя. Будзем эксплуатаваць іх навейшымі метадамі — пастанавілі яны. Праз нейкі час на панадворак ГС, злосна пырхаючы дымам, заехаў монументальны, ды не менш каштоўны (каля 100 тыс. злотых!) лакамабіль.

Сустракаць яго высыпалі ўсе працаўнікі ГС з праўленнем на чале.

— Вось гэта дык волат! — у захапленні паціралі рукі кіраўнікі ГС.

— Завалім дзяржаўны рынак гарадоцкім торфам, а то і за мяжу вывезем, — снавалі летуценні іншыя.

Адзначаючы гэтую нечаканую падзею, кіраўнікі ГС кульнулі не адзін штодзённы кілішак і... пачалі ўводзіць словы ў чын, а манументальны волат пачаў... стаянку на панадворку ГС. Праходзілі дні, месяцы, гады, а ён усё стаяў, іржавеючы на тым жа месцы і ніхто ў ГС-е не цікавіўся ім. Затое пачалі цікавіцца ім іншыя, так сказаць, не зусім афіцыяльныя асобы. І з яго пачалі адыходзіць у невядомым напрамку пасобныя, больш каштоўныя часткі.

Мінула тры гады з таго часу, як лакамабіль быў волатам. З яго застаўся толькі хрыбет ды колы і ўжо зусім не ўяўляў сабою ніякай цікавасці. А ўсё ж у апошні час зацікавілася ім паветовая пракуратура. Некаторыя кажуць, што гэта не ім, але былымі кіраўнікамі ГС. На маю думку, гэта ўсёроўна. Адно з другім жа тут цесна звязана.

Тэкст і фота — Шуляк



На здымку: паміраючы лакамабіль на панадворку ГС у Гарадку.

## ЭПІГРАМА

Каб не жонка і яе вочы,
Спакойна спаў бы цэлыя ночы.

## У ВОЛЬНЫ ЧАС

Наш архітэктар вярнуўся з адпачынку і не можа трапіць у свой кабінет, які знаходзіцца ў лабірынце.

Знайдзіце правільную дарогу і пакажыце яе архітэктару.



## НАША ПОШТА

АСЦЯРОЖНЫ: «Сваю сяброўку я заўсёды называў «божая кароўка». Яна абразілася».

**— Як бы там ні было, гэта сведчыць аб вашых ідэалістычных поглядах. Лепш называць (як некаторыя) «сонейка-перлачка».**

СТАЛЫ ЧЫТАЧ: «Ці можна калупаць у зубах у прысутнасці іншых асоб?»

**— У такіх выпадках могуць і павінны калупаць, але толькі зубныя лекары. Звычайным асобам кодэкс культуры такога права не прадбачыў.**

ГАЛІНА БЕЗНАДЗЕЙНАЯ — С.-нок: ...«Мой нарачоны, едучы ў камандзіроўку, пазнаёміўся з дзяўчынай бацькі якой маюць уласны рэстаран і пансіянат у адпачынковай мясцовасці, і пастанавіў паехаць туды. Гаворыць, што гэта аказія задарма адпачыць у пансіянаце. Як гэта зразумець?»

**— Ды тут усё ясна. Пашукай сабе падобную аказію, а можа (яшчэ лепш) залажы ўласны пансіянат.**

Г. П. — БЕЛАСТОК: «Мяне звольнілі з працы без папярэджання і з прычыны таго, што я не мог разлічыцца з нястачы на суму 7.420,40 зл. Ці правільна зрабілі?».

**— Не, няправільна! Павінны былі не звольніць, а пасадзіць.**

В САХА — Б-Ч: «Мой муж пасварыўся са мною, сабраў свае рэчы і перайшоў жыць да сваёй сакратаркі. Ці гэта значыць, што перастаў мяне любіць?»

**— Дробны гэта факт, таму нельга рабіць з яго выводаў. Муж, несумненна, апрацоўвае даўжэйшы даклад ці справаздачу і таму сакратарка павінна быць у яго пад рукою.**

## ОЙ, П'ЯНА Я, П'ЯНА.




Ой, п'яна я, п'яна,
На парозе ўпала,
Ой, падвядзі, мужу,
Бо я п'яна дужа.

Мілы падымае,
Мілае пытае:
— Дзе ж ты, міла, была,
Што мяне забыла?

— Была на рыночку,
Піла гарэлочку,
Як з родам зышлася,
То вельмі ўпілася.

Каб ты быў муж добры,
Ды ўзяў бы нагай торгі,
Ды стаў жонку біці:
— Не йдзі ў карчму піці!

Ой, дома напіся,
Ды не валачыся,
Ой, вазьмі кватэрку,
Зазаві радзімку.

Кватэрка малая
Радня вялікая,
Пагаворым сэрца,
Прынясем вядзерца.

## Народныя жарты

* * *

У аднаго селяніна было чатыры сыны. Аднойчы бацька сядзіць з імі і кажа:

— У аўтра маці спячэ пірог. Хто будзе есці?

— Я! — закрычаў старэйшы, баючыся, каб яго не апярэдзілі браты.

— Заколем парася. Хто будзе есці?

— Я, — паспяшаўся старэйшы.

— Зарэжам гуся. Хто будзе есці?

— Я, я! — ізноў закрычаў той самы.

— Паўтра пойдзем у поле. Хто будзе араць?

Усе маўчалі.

— Усё я, ды я, няхай і другія што-небудзь робяць, — адказаў старэйшы.

* * *

— Што з табою сталася, — кажа бацька свайму сыну. Ці ў цябе ліхаманка ці што, што ты нічога не ясі? Ці еў што сёння?

— Не, — адказаў сын, — маці раніцай дала кусочак хлеба, ды чарствога. Я хацеў у вядры яго памачыць, ды не змясціўся. Так я толькі гэты сухі хлеб з'еў, больш нічога.

Прыслаў

ВАСІЛЬ ПАЎЛЮЧУК
з Сакаў.
Бельскага пав

* * *

Нічыпар васемнаццаць год плаціў аліменты. Аддаючы апошнюю рату свайму «пабочнаму» сыну Івану, кажа:

— Вось, даю апошні раз. Занясі маці і прыглядзься, якую яна зробіць міну.

Іванка рыхтоўна занёс грошы маці.

— Бацька казаў, што мне ўжо васемнаццаць год, і больш плаціць не будзе, — а сам углядаецца ў твар маці.

— Чаго вочы вылупіў?

— Бо бацька казаў, каб я паглядзеў, якую ты зробіш міну.

— А ты лепш ідзі і скажы яму, што ты не яго сын, і паглядзі, якую ён зробіць міну.

(гук)

 